




Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь
БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ТЭХНАЛАГІЧНЫ УНІВЕРСІТЭТ

Кафедра лесаахowы і садова-паркавага будаўніцтва

# ТЭРМІНАЛАГІЧНЫ ТЛУМАЧАЛЬНЫ БЕЛАРУСКА-РУСКІ СЛОЎНІК ПА ЛЯСНОЙ ФІТАПАТАЛОГІІ

Для студэнтаў спецыяльнасці Т.16.02

Мінск 1995

ББК 81.411.3 - 43
Разгледжаны і рэкамендаваны да выдання рэдакцыйна-выдавецкай радай універсітэта.

Складальнікі: Я.С.Раптуновіч,
Р.В.Міксюк

Навуковы рэдактар праф.М.І.Фёдараў

Рэцэнзенты: ст.выкладчык кафедры лясных культур і глебазнаўства канд. с.-г. навук М.І.Якімаў;

намеснік дырэктара па НДР Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка кандыдат біялагічных навук В.Н.Фёдараў

Прыведзена каля 250 найбольш ужывальных тэрмінаў і дадзены іх азначнікі на бел.мове.

Прызначаны для студэнтаў спецыяльнасці Т.16.02 "Лясная і садова-паркавая гаспадарка".







## УВОДЗІНЫ

Беларуска-рускі тлумачальны слоўнік па лясной фітапаталогіі прызначаецца для студэнтаў лесагаспадарчага факультэта вышэйшых навучальных установ.

Слоўнік змяшчае ў алфавітным парадку тэрміны, назвы хвароб і класаў, падкласаў, груп і парадкаў грыбоў, якія часта выкарыстоўваюцца ў лясной фітапаталогіі. Спачатку яны прыводзяцца на беларускай мове, потым даецца пераклад на рускую мову, а тлумачэнне-зноў на беларускай мове. Для некаторых тэрмінаў у дужках указваецца іх паходжанне і даюцца лацінскія назвы класаў і парадкаў грыбоў. Спецыяльныя тэрміны і некаторыя хваробы даюцца з кароткімі тлумачэннямі (звесткамі) з мэтай іх глыбейшага пазнання.

## А

ААГАМІЯ - оогамия - палавы працэс у ааміцэтаў, характарызуецца зліццём розных па форме і велічыні раздзельнаполых клетак: жаночай (аагонія) і мужчынскай (антарыдыя).

ААМІЦЭТЫ - оомицеты (Oomycetes) - клас ніжэйшых грыбоў, у якіх палавы працэс тыпу аагаміі.

ААСПОРА - ооспора - спячая спора, якая утвараецца пасля апладнення аагоніі антарыдыем.

АБІЯТЫЧНЫЯ ФАКТАРЫ - абиотические факторы (ад грэч. а- адмоўе і bioticos - жывы, жыццёвы) - сукупнасць умоў неарганічнага асяроддзя (тэмпературы, вільготнасці, ціску паветра, саставу марскіх і прэсных вод і г.д.), якія акружаюць арганізмы і уплываюць на іх.

АБЛІГАТНЫЯ ПАРАЗІТЫ - облигатные паразиты - арганізмы, якія заўсёды жывуць на жывых тканках раслін; яны не здольны выкарыстоўваць для жыўлення адмерлыя арганічныя рэчывы.

АГАРЫКАВЫЯ - агариковые (Agaricales) - парадак базідыяльных грыбоў, у якіх пладовыя целы ў выглядзе шапачкі з цэнтральнай або бакавой ножкай і пласціністым або трубчастым гіменафорам. Сярод іх многа ядомых грыбоў.

АГРАТЭХНІЧНЫ МЕТАД АХОВЫ РАСЛІН - агротехнический метод защиты растений - выкарыстанне агратэхнікі для зніжэння шкоднікаў, узбуджальнікаў хвароб раслін, састаўная частка комплекснай сістэмы аховы раслін. Уключае адбор і падрыхтоўку (абеззаражванне, аздараўленне) насення, мерапрыемствы па ахове раслін у перыяд вегетацыі, сістэму апрацоўкі глебы і догляду пасеваў і пасадак і інш.

АГРЭСІЎНАСЦЬ - агрессивность - здольнасць мікраарганізма нападаць на свайго гаспадара, знаходзіцца ў ім, пераадольваць яго супраціўленне, выкарыстоўваць для свайго жыўлення і размнажацца ў ім.

АДАПТАЦЫЯ - адаптация - прыстасаванне арганізмаў і іх груп да канкрэтных умоў існавання.

АДМІРАННЕ КАРЫ - отмирание коры - адбываецца ў выніку механічных пашкоджанняў, нізкіх і высокіх тэмператур, сухасці паветра, захворвання і г.д.

АІДЫІ - оидии - цыліндрычныя, эліпсаідальныя ці іншай формы клеткі, якія утвараюцца пры распадзенні міцэлію або асобных гіф; з'яўляюцца формай вегетатыўнага размнажэння грыбоў.



АКТЫНАМІЦЭТЫ, ПРАМЯНІСТЫЯ ГРЫБЫ - актиномицеты, лучистые грибы (Actinomycetes) - група мікраарганізмаў з рысамі бактэрый і грыбоў. Актынаміцэтам уласціва галінастая форма клетак і адсутнасць марфалагічна сфарміраванага ядра. Большасць відаў утвараюць міцэлій, размнажаюцца спорамі або дзяленнем.

АМЯЛА - омела (Viscum album) - вечназялёны куст з сямейства амелавых, паразітуе на галінах і ствалах лісцевых і хвоевых дрэў.

АНАТАМІЧНЫЯ ЗМЯНЕННІ У ХВОРАЙ РАСЛІНЕ - анатомические изменения в больном растении - парушэнне будовы і формы клетак, недаразвіццё або узмацненне разрастання тканак, перараджэнне або амярцвенне клетак, якія адбываюцца пры захворванні расліны і абумоўлены змяненнем знешняга выгляду органаў ці ўсёй расліны ў цэлым.

АНЕМАХАРЫЯ - анемохория - спосаб распаўсюджвання заразнага пачатку пры дапамозе ветру, паветранай плыні. Анемахарыі належыць галоўная роля ў распаўсюджванні грыбоў.

АНТАГАНІЗМ (ад. грэч. antagonisma - барацьба, спрэчка)- форма ўзаемаадносін паміж арганізмамі, пры якой адзін партнёр тармозіць развіццё другога або губіць яго. Сярод мікраарганізмаў - адмоўныя ўзаемаадносіны паміж рознымі відамі, расамі, штамамі.

АНТАРЫДЫЙ - антеридий - мужчынская палавая клетка, якая ўдзельнічае у апладненні у грыбоў.

АНТРАКНОЗ - антракноз - грыбныя хваробы раслін, пры якіх надземныя часткі пакрываюцца цёмнымі, амаль чорнымі язвамі, бугаркамі, плямамі. Хвароба выклікаецца недасканалымі грыбамі з роду Gloeosporium, Colletotrichum і інш.

АНТРАПАГЕННЫЯ ФАКТАРЫ - антропогенные факторы - група фактараў, паходжаннем звязаных з дзейнасцю чалавека і ўплываючых на навакольнае асяроддзе.

АНТРАПАХАРЫЯ - антропохория -распаўсюджванне заразнага пачатку ўзбуджальніка хваробы пры дапамозе чалавека.

АНТЫБІЁТЫКІ - антибиотики (ад грэч. anti - супраць і bios - жыццё) - рэчывы біялагічнага паходжання, якія утвараюцца мікраарганізмамі (грыбамі, бактэрыямі) і маюць здольнасць у малых колькасцях таксічна ўздзейнічаць на іншыя мікраарганізмы.

АНТЫСЕПТЫКІ ДЛЯ АХОВЫ ДРАЎНІНЫ - антисептики для защиты древесины - хімічныя рэчывы, якія ўжываюцца для аховы драўніны ад разбурэння грыбамі.

АПАТЭЦЫЙ - апотеций - адкрытае зверху чашападобнае або сподкападобнае пладовае цела ў грыбоў, якія адносяцца да групы дыскаміцэтаў.

АПЁК - ожог - пашкоджанне раслін, выклікаемае дзеяннем прамых сонечных прамянёў, кантрастнымі тэмпературамі, некаторымі грыбамі, бактэрыямі, пестыцыдамі. Пашкоджваюць лісце, парасткі, галіны і ствалы раслін (пладовых дрэў, каштана і інш.).

АПЕНЬКА САПРАЎДНАЯ, ВОСЕНЬСКАЯ - опенок настоящий, осенний (Armillariella mellea) - шырока распаўсюджаны від грыбоў, паразітуе на многіх хваёвых і лісцевых пародах.

АПЫРСКВАННЕ - опрыскивание - спосаб нанясення водных фунгіцыдных саставаў на апрацоўваемую паверхню (лісце, хвою, глебу) у выглядзе дробных кропляў; праводзіцца спецыяльнымі апырсквальнікамі.

АПРЭСОРЫЙ - апрессорий - плоскае патаўшчэнне, якое утвараецца на канцах гіфаў, часта ўзнікае ў самым пачатку заражэння расліны ў многіх паразітных грыбоў (мучністарасяных, іржаўных, некаторых недасканалых). Служыць для прымацавання і ўздзеяння на паверхневую тканку расліны-гаспадара, што садзейнічае пранікненню грыба ўнутр расліны.

АПЫЛЬВАННЕ - опыление - спосаб нанясення пылаватых фунгіцыдных саставаў-дустаў на паверхню раслін пры дапамозе спецыяльных апаратаў-апыляльнікаў.

АСКАГОН - аскогон - частка архікарпа (жаночага апладненага органа ў грыбоў). Утвараецца пры палавым працэсе ў сумчатых грыбоў.

АСКАКАРП - аскокарп - сумчатае пладовае цела аскаміцэтаў.

АСКАМІЦЭТЫ - аскомицеты (Ascomycetes) - клас вышэйшых грыбоў з адметнымі органамі размнажэння - сумкамі /аскамі/.

АФІЛАФОРАВЫЯ - афиллофоровые (Aphyllophorales) - парадак базідыяльных грыбоў, у якіх пладовыя целы рознай формы і канструкцыі з трубчастым, шыпаватым, барадаўчатым, гладкім і іншым гіменафорам. Да іх адносяцца многія дрэваразбуральныя грыбы.

АХОВА ДРАЎНІНЫ - защита древесины - сістэма мер, якая



перашкаджае развіццю ў нарыхтаванай драўніне дрэваразбуральных і дрэвафарбавальных грыбоў, а таксама насякомых-ксілафагаў.

АХОЎНАЯ РЭАКЦЫЯ - защитная реакция - рэакцыя расліны на заражэнне спецыфічным узбуджальнікам. У праяўленні ахоўнай рэакцыі вялікая роля належыць клетачным рэакцыям раслін.

АЭРАЗОЛЬ - аэрозоль - дробнадысперсны стан цвёрдых і вадкіх рэчываў. Велічыня часцінак калы 1мкм.

Б

БАЗІДЫЯ - базидия - асноўны орган спораношэння базідыяльных грыбоў, нагадвае сабой спецыяльныя клеткі булавападобнай ці іншай формы са стэрыгмамі, на якіх экзагенна утвараюцца базідыяспоры.

БАЗІДЫЯМІЦЭТЫ - базидиомицеты (Basidiomycetes) - клас вышэйшых грыбоў з асобымі органамі размнажэння - базідыямі.

БАЗІДЫЯСПОРЫ - базидиоспоры - споры, якія утвараюцца на базідыі, як правіла, у колькасці чатырох.

БАКТЭРЫІ - бактерии (Bacteria) - мікраскапічныя аднаклетачныя арганізмы, якія размнажаюцца дзяленнем і не маюць ясна выяўленага адасобленага ядра. Большасць бактэрый шарападобнай формы (кокі) ці палачкападобныя (бацылы), часам выгнутыя або спіральныя.

БАКТЭРЫЯЛЬНЫЯ ХВАРОБЫ, БАКТЭРЫЁЗЫ - бактериальные болезни, бактериозы - хваробы, якія выклікаюцца фітапатагеннымі бактэрыямі.

БЛАСТАСПОРЫ - бластоспоры - споры, якія размнажаюцца пачкаваннем, як, напрыклад, у дражджавых і некаторых іншых грыбоў.

БЯСПОЛАЕ РАЗМНАЖЭННЕ ГРЫБОЎ - бесполое размножение грибов - размнажэнне без апладнення, ажыццяўляецца пры дапамозе спор, якія развіваюцца на спецыяльных галінах міцэлію.

В

ВЕГЕТАТЫЎНАЕ РАЗМНАЖЭННЕ - вегетативное размножение - тып размнажэння, пры якім новы арганізм развіваецца з часткі мацярынскага.

ВЕДЗЬМІНЫ МЕТЛЫ - ведьмины метлы - хваробы раслін, якія выклікаюцца грыбамі, вірусамі, насякомымі. На раслінах, часцей

на дрэвах утвараюцца пучкі тонкіх кароткіх галінак з дробным недаразвітым лісцем. Сустракаюцца на бярозе, вольсе, грабе, і інш. лісцевых дрэвах (выклікаюцца галасумчатымі паразітнымі грыбамі з роду Taphrina ), на хвоі і елцы (выклікаюцца пераважна ржаўнымі грыбамі).

ВЕРТЫЦЫЛЁЗ - вертициллез - хвароба дрэў, якая выклікаецца недасканалымі грыбамі з роду Verticillum. Найбольш часта пашкоджвае клён, ліпу, вяз і дуб.

ВІРУСЫ- вірусы - узбуджальнікі інфекцыйных хвароб раслін, чалавека і жывёл ультрамікраскапічнай велічыні няклетачнай будовы, якія размнажаюцца толькі ў жывых клетках успрымальнага гаспадара.

ВІРУСНЫЯ ХВАРОБЫ, ВІРОЗЫ - вирусные болезни, вирозы - інфекцыйныя хваробы, якія выклікаюцца вірусамі.

ВЫПРАВАННЕ УСХОДАЎ ЛЯСНЫХ ПАРОД - выпревание всходов лесных пород - хвароба характарызуецца частковым або поўным адміраннем верхавінак сеянцаў. Прычынай з'яўляецца знясіленне сеянцаў у выніку доўгага знаходжання пад глыбокім снегавым покрывам і паражэння іх грыбамі Sclerotinia graminearum і Typhula graminearum.

ВЫРОДЛІВАСЦЬ РАСЛІН - уродливость растений - розныя марфалагічныя адхіленні ад нормы (сцябло робіцца пляскатым, на галінах і ствалах утвараюцца нарасці і разрастанні).

Г

ГАЛАНДСКАЯ ХВАРОБА ІЛЬМАВЫХ, ТРАХЕАМІКОЗ - голландская болезнь ильмовых, трахеомикоз - грыбная хвароба сасудзістай сістэмы дрэў. Характарызуецца завяданнем, скручваннем і засыханнем лісця і адміраннем галінак кроны ў выніку закупоркі сасудаў міцэліем узбуджальніка і ціламі, а таксама ў выніку дзеяння таксічных рэчываў, што выдзяляе патаген.

ГАЛАСУМЧАТЫЯ ГРЫБЫ - голосумчатые грибы - падклас сумчатых грыбоў, сумкі у іх утвараюцца непасрэдна на міцэліі і размяшчаюцца адкрыта, часта на паверхні захварэўшых раслін.

ГАЛАЎНЯ - головня - хвароба раслін, якая выклікаецца галаўнёвымі грыбамі. Найбольшую шкоду прыносіць збожжавым культурам.

ГАМОЗ, КАМЕДЗЕЦЯЧЭННЕ - гомоз, камедетечение - хвароба пераважна драўняных, радзей травяністых раслін. Характарызуецца выдзяленнем камедзі - цягучай, ліпкай янтарна-жоўтай ці бурай вадкасці, якая хутка цвярдзее на паветры.



ГАСТЭРАМІЦЭТЫ - гастеромицеты (Gasteromycetales) - група парадкаў базідыяльных грыбоў, у якіх базідыі з базідыяспорамі размяшчаюцца ў цалкам закрытых пладовых целах. Па форме пладовыя целы пераважна шарападобныя і акруглыя, напрыклад, порхаўкі, галавачы, у некаторых зоркападобныя.

ГАЎСТОРЫІ - гаустории - спецыялізаваныя і відазмененыя галіны вегетатыўных гіфаў паразітных грыбоў, якія пранікаюць у жывыя клеткі расліны-гаспадара і бяруць з іх неабходныя для жыўлення грыба рэчывы.

ГЕМЫ - геммы - спачываючыя споры зменлівай формы і велічыні (у галасумчатых, галаўнёвых і інш. грыбоў).

ГЕТЭРАТАЛІЗМ - гетероталлизм - раздзельнаполасць, калі два арганізмы належаць да аднаго віду, не адрозніваюцца марфалагічна, але адрозніваюцца ў палавых адносінах.

ГЕТЭРАТРОФНЫЯ АРГАНІЗМЫ - гетеротрофные организмы - арганізмы, якія жывяцца гатовымі арганічнымі рэчывамі і не здольныя да першаснага сінтэзу іх з неарганічных злучэнняў. Да гэтых арганізмаў адносяцца грыбы, некаторыя вышэйшыя расліны, бактэрыі і інш.

ГІБЕРЭЛІНЫ - гиббереллины - роставыя рэчывы раслін і прадукты жыццядзейнасці некаторых грыбоў, належаць да фітагармонаў; маюць высокую фізіялагічную актыўнасць і рэзка стымулююць рост раслін.

ГІДРАХАРЫЯ - гидрохория - распаўсюджанне заразнага пачатку пры дапамозе вады.

ГІМЕНІЙ - гимений - спараносны слой пладовых цел сумчатых і базідыяльных грыбоў, які складаецца са спораўтвараючых органаў (сумак і базідый), нярэдка з прамежкавымі паміж імі вырастамі стэрыльнага міцэлію (парафізы, цыстыды і інш.).

ГІМЕНАМІЦЭТЫ - гименомицеты - група базідыяльных грыбоў, уключае 2 парадкі: афілафоравыя і агарыкавыя.

ГІМЕНАФОР - гименофор - паверхня пладовага цела грыбоў, на якой размяшчаецца гіменій.

ГІПАКРЭЙНЫЯ - гипокрейные ( Hypocreales) - парадак сумчатых грыбоў з ярка афарбаванымі пладовымі целамі - перытэцыямі. Сярод іх ёсць узбуджальнікі ракавых і некрозных хвароб лісцевых парод.

ГІПАПЛАЗІЯ - гипоплазия - недаразвіццё клетак або памяншэнне колькасці клетак у тканках органа расліны (напрыклад, карлікавасць раслін).

ГІПЕРПАРАЗІТЫ, ЗВЫШПАРАЗІТЫ - гиперпаразиты, сверхпаразиты - паразіты другога парадку, якія пасяляюцца на іншых паразітных арганізмах і жывуць за іх кошт.

ГІПЕРПЛАЗІЯ - гиперплазия - павелічэнне колькасці клетак у сувязі з іх узмоцненым размнажэннем пад уплывам узбуджальніка хваробы ці іншага раздражняльніка.

ГІПЕРТРАФІЯ - гипертрофия - павелічэнне памераў клетак расліны, часта суправаджаецца змяненнем іх формы.

ГІФАМІЦЭТЫ - гифомицеты (Hyphomycetes) - парадак недасканалых грыбоў, у якіх каніды утвараюцца на асобных адгалінаваннях грыбніцы - канідыяносцах; апошнія размяшчаюцца раз'яднана ці спалены у пучкі - карэміі.

ГІФЫ - гифы - тонкія галінастыя ніткі, якія ў сукупнасці складаюць вегетатыўную частку грыбоў - грыбніцу (міцэлій).

ГЛЕБАВЫЯ ГРЫБЫ - почвенные грибы - экалагічная група грыбоў, жыццёвы цыкл якіх або яго частка праходзіць у глебе ці на яе паверхні. У глебе асабліва шырока распаўсюджаны многія віды мукаравых грыбоў і гіфаміцэтаў.

ГНІЛЬ ДРАЎНІНЫ - гниль древесины - разбурэнне драўніны рознымі відамі грыбоў, пераважна губавымі, якое суправаджаецца змяненнем яе колеру, структуры, трываласці.

ГОЛАБАЗІДЫЯЛЬНЫЯ ГРЫБЫ - голобазидиальные грибы (Exobasidiales) - парадак базідыяльных грыбоў, у якіх базідыі з базідыяспорамі размяшчаюцца на міцэліі, пладовыя целы у іх адсутнічаюць.

ГРЫБНІЦА, МІЦЭЛІЙ - грибница, мицелий - вегетатыўнае цела грыба, якое ажыццяўляе функцыі жыўлення, росту, размнажэння.

ГРЫБЫ - грибы (Fungi) - група бесхларафільных гетэратрофных арганізмаў, разнастайных па будове, памерах і спосабе жыцця. Некаторыя вучоныя выдзяляюць грыбы у асобнае царства жывой прыроды.

ГРЫБЫ ГАЛАЎНЁВЫЯ - грибы головнёвые (Ustilaginales) - парадак базідыяльных грыбоў, выклікаюць хваробу пад назвай галаўня.

ГРЫБЫ ДАМАВЫЯ - грибы домовые - група дрэваразбуральных грыбоў, выклікаюць гніенне драўніны ў будынках і збудаваннях.



ГРЫБЫ ДРЭВАРАЗБУРАЛЬНЫЯ - грибы дереворазрушающие - грыбы, якія развіваюцца на драўніне і пры дапамозе сваіх ферментаў ператвараюць цэлюлозу, лігнін і геміцэлюлозу ў раставаральныя арганічныя злучэнні. Большасць гэтых грыбоў адносіцца да базідыяміцэтаў.

ГРЫБЫ ДРЭВАФАРБАВАЛЬНЫЯ - грибы деревоокрашивающие - група штабельных грыбоў, развіваюцца звычайна ў абалоннай толькі што ссечанай драўніне і афарбоўваюць яе ў сінявыты, шараваты, буры, чырванаваты, жоўты і іншыя колеры. Яны жывяцца змесцівам жывых клетак, гнілі драўніны не утвараюць.

ГРЫБЫ РЖАЎНЫЯ - грибы ржавчинные (Uredinales) - парадак базідыяльных грыбоў, у цыкле развіцця могуць мець наступныя спаранашэнні: спермагоніі (пікніды), эцыдыі, урэдастадыю, тэлейтастадыю, базідыі з базідыяспорамі. Аблігатныя паразіты на многіх травяністых і драўняных раслінах, налічваецца іх каля 7 тыс. відаў.

ГУБКА - губка - назва некаторых дрэваразбуральных грыбоў з губавых (напрыклад, губка каранёвая -(Heterobasidium annosum ), губка сасновая -(Phellinus pini var. pini), губка дубовая - (Daedalea quercina).

ГУБАВЫЯ ГРЫБЫ - трутовые грибы - вялікая група грыбоў парадку афілафоравых класа базідыяміцэтаў, характэрным для іх з'яўляецца утварэнне значных па велічыні і розных па форме пладовых цел. Пераважная большасць - дрэваразбуральныя грыбы.

## Д

ДЫКАРЫЁН - дикарион - два ядры з гаплоідным наборам храмасомаў у кожным і рознага паходжання (адно жаночае, другое мужчынскае), якія знаходзяцца ў адной клетцы (вынік палавога працэсу) у збліжаным становішчы і вядуць сябе як адно цэлае ядро (дзеляцца аднachасова і паралельна).

ДЫСКАМІЦЭТЫ - дискомицеты - група сумчатых грыбоў, у якіх пладовыя целы - апатэцыі.

ДЫЯГНОСТЫКА ХВАРОБ РАСЛІН - диагностика болезней растений (ад грэч. diagnostikos - здольны распазнаць) - вучэнне пра метады даследавання раслін для распазнавання іх хвароб.

Дакладная своечасовая дыягностыка неабходна для выбару эфектыўных спосабаў і сродкаў аховы раслін.

ДЭГЕНЕРАЦЫЯ - дегенерация - ператварэнне клетак або цэлых участкаў раслiннай тканкі ў рэчывы рознага хімічнага саставу, якія ў нармальных клетках не сустракаюцца ці сустракаюцца ў меншых колькасцях.

ДЭФАРМАЦЫЯ ЛІСЦЯ - деформация листьев - хвароба лісця раслін, якая характарызуецца змяненнем формы ліставой пласцінкі. Выклікаецца грыбамі, бактэрыямі, вірусамі.

ДЭФАРМАЦЫЯ ПЛАДОЎ - деформация плодов - хвароба пладоў дрэвавых і кустовых раслін, якая характарызуецца поўным або частковым змяненнем формы плода.

Ж

ЖАЎТУХА - желтуха - вірусная хвароба, пры якой лісце набывае бледную афарбоўку, адбываецца дэфармацыя пашкоджаных органаў, утварэнне ведзьміных мётлаў, карлікавасць, некроз флаэмы і некаторыя іншыя паталагічныя з'явы. Вірусныя хваробы тыпу жаўтух пашкоджваюць вяз, бружмель, белую акацыю, елку, сасну і інш. пароды.

З

ЗААСПОРА - зооспора - спора без абалонкі, з адным або двума жгуцікамі, якая валодае здольнасцю перамяшчацца ў вадзе. Яны утвараюцца ўнутры асобых спараносных органаў - зааспарангіяў.

ЗААХАРЫЯ - зоохория - распаўсюджанне заразнага пачатку пры дапамозе жывёл.

ЗАВЯДАННЕ - увядание - хвароба раслін, якая характарызуецца панікласцю лісця, галін і іншых органаў у сувязі са стратай тургару клеткамі і тканкамі.

ЗАХВОРВАННЕ - заболевание - рэакцыя расліны-гаспадара на заражэнне і пашкоджванне. Тэрмін выкарыстоўваецца ў розных значэннях. Так, пад захворваннем часта разумеюць асобныя выпадкі паяўлення якой-небудзь хваробы ў якім-небудзь раёне. З другога боку, пад захворваннем часта разумеюць пачатак хваробы. Гэты тэрмін ужываецца ў якасці сіноніма хваробы, што неправільна, паколькі хвароба з'яўляецца больш-менш працяглым паталагічным працэсам.



ЗАГНІВАННЕ СЕЯНЦАЎ - загнивание сеянцев - у хворых сеянцаў загніваюць надземныя часткі або карані. Часта ўзбуджальнікам хваробы хваёвых і ліцевых парод, асабліва бука, з'яўляецца грыб *Phytophthora omnivora*.

ЗАРАЖЭННЕ - заражение - пранікненне ўзбуджальніка ўнутр тканкі расліны.

ЗАРАЗНЫ ПАЧАТАК - заразное начало - вірусы, бактэрыі, споры, міцэлій грыба, якія пры пападанні на расліны выклікаюць іх хваробы.

ЗВЫШПАРАЗІТЫ - сверхпаразиты - паразіты другога парадку, якія пасяляюцца на іншых паразітных арганізмах і жывуць за іх кошт.

ЗІГАГАМІЯ - зигогамия - зліццё марфалагічна падобных і розных у палавых адносінах адросткаў грыбоў. Гэтыя адросткі зближаюцца, ад іх аддзяляюцца клеткі - гаметангіі, якія зліваюцца, пакрываюцца тоўстай абалонкай і ператвараюцца ў зігаспору.

ЗІГАМІЦЭТЫ - зигомицеты ( Zygomycetes ) - клас ніжэйшых грыбоў, у якіх палавы працэс тыпу зігагаміі.

ЗІГАСПОРА - зигоспора - спячая палавая спора ў зігаміцэтаў.

І

ІЗАГАМІЯ - изогамия - адна з форм палавога працэсу, пры якім абедзве гаметы з'яўляюцца рухомымі і падобнымі па будове, форме і велічыні.

ІМУНІТЭТ РАСЛІН - иммунитет растений - неўспрыймальнасць раслін да ўзбуджальнікаў хвароб і шкоднікаў пры непасрэдным кантакце з імі і наяўнасці спрыяльных для заражэння ўмоў. Адрозніваюць прыродны, або прыроджаны, і набыты, або штучны, імунітэты.

ІМУННАСЦЬ - иммунность - ступень праяўлення ў раслін устойлівасці да захворвання.

ІНАКУЛЯЦЫЯ - инокуляция - прымешванне, увядзенне ў кантакт або перасаджванне на ці ў расліну ўзбуджальнікаў хвароб - мікраарганізма, віруса або матэрыялу, які утрымлівае іх; або ў прыродных умовах асаджэнне на парозе інфекцыі заразнага пачатку.

ІНГІБІТАРЫ - ингибиторы - рэчывы, якія змяшчаюцца ў соку многіх раслін і маюць здольнасць падаўляць актыўнасць

вірусаў.

ІНКУБАЦЫЯ - инкубация - адна з форм цячэння інфекцыйнай хваробы, ахопл'вае перыяд паміж заражэннем і з'яўленнем першых сімптомаў хваробы.

ІНСЕКТЫЦЫДЫ - инсектициды (ад лац. insectum - насякомыя і caedo - забіваю, знішчаю) - хімічныя прэпараты для барацьбы з насякомымі-шкоднікамі раслін у лясной і сельскай гаспадарцы.

ІНФЕКЦЫЙНАЯ НАГРУЗКА - инфекционная нагрузка - колькасць заразнага пачатку ўзбуджальніка, якая забяспечвае заражэнне расліны (органа).

ІНФЕКЦЫЙНЫЯ ХВАРОБЫ, ПАРАЗІТАРНЫЯ ХВАРОБЫ - инфекционные болезни, паразитарные болезни - хваробы, якія выклікаюцца патагеннымі арганізмамі. Па характары ўзбуджальніка падзяляюцца на грыбныя, бактэрыяльныя, вірусныя, мікаплазмавыя, нематодныя хваробы раслін.

ІНФЕКЦЫЯ - инфекция - у вузкім сэнсе - укараненне ўзбуджальніка ў расліну, якое прыводзіць да захворвання апошняга; у шырокім сэнсе - развіццё хваробы як рэзультат узаемадзеяння паміж узбуджальнікам і раслінай.

ІРЖАЎНЫЯ ГРЫБЫ - ржавчинные грибы (Uredinales) - парадак базідыяльных грыбоў.

К

КАМЕДЗЕЦЯЧЭННЕ, ГАМОЗ - камедетечение, гоммоз - хвароба пераважна драўняных (костачкавыя пладовыя культуры, цытрусавыя, шаўкоўніца), радзей травяністых раслін (бавоўнік). Характарызуецца выдзяленнем камедзі - цягучай, ліпкай янтарнажоўтай ці бурай вадкасці, часам цвярдзеючай на паветры. Паражаюцца ствалы, галіны, карані, радзей плады і лісце.

КАНІДЫІ - конидии - гаплоідныя споры бясполага размнажэння, якія ўтвараюцца на канідыяносцах.

КАНІДЫЯЛЬНАЯ СТАДЫЯ - конидиальная стадия - стадыя бясполага размнажэння некаторых, найбольш высокаарганізаваных і ніжэйшых грыбоў і найбольш характэрная для вышэйшых, асабліва сумчатых грыбоў.

КАНІДЫЯНОСЕЦ - конидиеносец - простая або разгалінаваная, часта рэзка адметная ад вегетатыўнага міцэлію вертыкальна прыпаднятая галіна, якая нагадвае сабой спараносны орган. На вяршыні, радзей па баках, яшчэ радзей унутры ўтвараюцца каніды.



КАРАНЁВАЯ ГУБКА - корневая губка - грыб Fomitopsis annosa - узбуджальнік найбольш распаўсюджанай і шкоднай хваробы хваёвых парод.

КАРАНЦІН - карантин - комплекс дзяржаўных мерапрыемстваў па ахове тэрыторыі ад пранікнення з-за мяжы і пашырэння найбольш небяспечных шкоднікаў і ўзбуджальнікаў хвароб раслін, па ліквідацыі ачагоў заражэння.

КАРЛІКАВАЯ РАСЛІНА - карликовое растение - расліна, якая не дасягае нармальнай вышыні, характэрнай для дадзенага віду ці роду.

КАРЭМІЯ - коремия - спораношэнне асобага тыпу ў выглядзе цесна згрупаваных і часта пасклейваных у падоўжаным напрамку канідыяносцаў; на вяршыні карэміі, якая мае выгляд галоўкі, утвараюцца каніды грыба.

КОКАМІКОЗ ВІШНІ - коккомикоз вишни - хвароба на лісцях у выглядзе асобных дробных чырванаватых плям, якія пазней зліваюцца. Узбуджальнік - сумчаты грыб Coccomyces hiemalis Higg.

КУЧАРАВАСЦЬ ЛІСЦЯ - курчавость листьев - змяненне формы лісця пад уплывам жыццядзейнасці паразітаў, у выніку якой ліставая пласцінка дэфармуецца, скрыўляецца, робіцца хвалістай, скручваецца ці распухае. Хвароба сустракаецца ў таполі, бярозы, клёна татарскага, грушы і іншых раслін.

Л

ЛЕСААХОВА - лесозащита - спецыяльная галіна лясной гаспадаркі, мае свой спецыяльны апарат па барацьбе з хваробамі і шкоднікамі лесу. Кадры гэтага апарату складаюць спецыялісты-інжынеры лесааховы (лесапатолагі).

ЛОЖА - ложе - падушкападобнае ушчыльненае або больш ці менш рыхлае спляценне міцэлію грыба, утвараецца на паверхні субстрату ці унутры яго і нясе на верхнім баку масу зблізаных канідыяносцаў з канідыямі, часам акружаных шчацінкамі.

ЛЯЧЭННЕ ДРЭЎ - лечение деревьев - прыняцце мер, спрыяльных для аднаўлення парушаных жыццёвых функцый дрэва або асобных яго органаў. У цяперашні час, у той ці іншай ступені, распрацаваны тры галоўныя метады лячэння дрэў: догляд, унутраная тэрапія і хірургія.

М

МАЗАІКА - мозаика - нераўнамернасць афарбоўкі лісця, навіраецца чаргаванне цёмных і светлых участкаў рознай формы і велічыні. Светлыя плямы узнікаюць у выніку частковага разбурэння хларафілу у пашкоджаных тканках. Хвароба выклікаецца вірусамі.

МАКРАКАНІДЫІ - макроконидии - буйныя каніды з вялікай даўжынёй і вялікай таўшчынёй. Тэрмін выкарыстоўваецца для характарыстыкі відаў грыбоў, у якіх прысутнічаюць у цыкле развіцця дробныя споры (мікраканіды), напрыклад, у грыбоў роду Fusarium.

МАКРАСПАРЫЁЗ - макроспориоз - хваробы раслін, якія выклікаюцца недасканалымі грыбамі роду Macrosporium. Праяўляюцца у выглядзе розных па форме, велічыні і колеры плям, якія складаюцца пераважна з адмерлых клетак з ярка выражанымі канцентрычнымі кругамі.

МІКОЗЫ - микозы (ад грэч. myces - грыб) - хваробы раслін, якія выклікаюцца патагеннымі грыбамі.

МІКАЛОГІЯ - микология - навука пра грыбы.

МІКАПЛАЗМЫ - микоплазмы - найдрабнейшыя плеамарфныя арганізмы, па памеры некалькі буйнейшыя за вірусы і адрозніваюцца ад іх па будове і хімічным саставе. З'яўляюцца узбуджальнікамі карлікавасці шаўкоўніцы, ведзьміных мётлаў сасны і іншых хвароб.

МІКАРЫЗА - микориза (ад грэч. myces - грыб і rhiza - корань), грыбакорань, сімбіёз грыбоў з каранямі вышэйшых раслін. Мікарызны грыб атрымлівае ад вышэйшай расліны пажыўныя рэчывы, у асноўным вугляводы; расліна пры дапамозе грыба засвойвае азоцістыя злучэнні, вітамінападобныя рэчывы і актыватары росту, сінтэзаваныя грыбам.

МІКАТРОФНАСЦЬ - микотрофность - здольнасць вышэйшых раслін ажыццяўляць жыўленне пры дапамозе мікарызнага міцэлію.

МІЦЭЛІЙ - мицелий - тое, што і грыбніца.

МУКАРАВЫЯ ГРЫБЫ - мукоровые грибы - грыбы роду Mucorales, з'яўляюцца пераважна сапратрофамі на адмерлых раслінных астатках.

МУМІФІКАЦЫЯ - мумификация - грыбныя хваробы раслін, пры якіх пашкоджаны орган (звычайна мясісты) густа пранізваецца



грыбніцай, усыхаецца і ператвараецца у склероцый разнастайнай будовы і формы.

МУЧНІСТАЯ РАСА, ПОПЕЛІЦА, БЕЛЬ - мучнистая роса - хвароба раслін, якая выклікаецца мучністарасянымі грыбамі. На лісцях, парастках, пладах драўняных і травяністых раслін утвараецца белы павуціністы ці мучністы паверхневы налёт.

МУЧНІСТАРАСЯНЫЯ ГРЫБЫ - мучнисторосяные грибы - сумчатыя грыбы парадку мучністарасяных (Erysiphales), з'яўляюцца аблігатнымі паразітамі.

Н

НАЛЁТ - налет - на паверхні лісця ці парасткаў утвараецца тонкая плёнка грыбніцы ці спораношэння.

НАРАСТ, НАРАСЦЬ - нарост - пашкоджаная тканка у выніку раздражнення разрастаецца і частка расліны набывае ненармальную форму. Выклікаюцца грыбамі, бактэрыямі, насякомымі, механічнымі пашкоджаннямі.

НЕДАСКАНАЛЫЯ ГРЫБЫ, ДЭЙТЭРАМІЦЭТЫ - несовершенные грибы, дейтеромицеты (Fungi imperfecti, Deuteromycetes ) - клас вышэйшых грыбоў, у якіх размнажэнне ажыццяўляецца галоўным чынам пры дапамозе бясполых спор - канідый.

НЕКРОЗЫ РАСЛІН - некрозы растений - адміранне асобных участкаў, тканак або органаў раслін у выніку механічнага пашкоджання клетак, уздзеяння на іх высокіх або нізкіх тэмператур і іншых абіятычных фактараў, дзеяння таксічных рэчываў, якія вылучаюцца патагеннымі грыбамі, актынаміцэтамі, міксаміцэтамі, бактэрыямі, вірусамі, мікаплазмамі.

НЕМАТОДНЫЯ ХВАРОБЫ - нематодные болезни - хваробы раслін, якія выклікаюцца круглымі чарвямі - нематодамі. Пашкоджваюць многія культурныя і дзікарослыя расліны.

НЕСАПРАЎДНАЯ МУЧНІСТАЯ РАСА - ложная мучнистая роса - на пашкоджаных частках раслін утвараюцца жоўта-бурыя, фіялетавыя ці іншыя плямы, з ніжняга боку якіх з'яўляецца далікатны шараваты мучністы налёт спораношэння (канідыяносцаў з канідыямі). Хвароба выклікаецца паразітнымі грыбамі з класа Oomycetes (роды Plasmopara, Peronospora, Bremia, Pseudoperonospora).

П

ПАВІТУХА - повилиха (віды Cuscuta) - травяністая расліна, якая паразітуе на надземных частках раслін, абвівае іх

каутаватымі ці руждаватымі сцяблінамі, поўнасцю пазбаўленымі лісця. Небяспечнае каранцінное пустазелле.

ПАЖЫЎНАЕ АСЯРОДДЗЕ - питательная среда - асяроддзе, на якім развіваюцца мікраарганізмы.

ПОЛІМАРФІЗМ - полиморфизм - здольнасць многіх грыбоў змяняцца ў працэсе развіцця ў сувязі са змяненнем знешняга асяроддзя. Гэтым тэрмінам вызначаюць таксама наяўнасць у аднаго віду грыба некалькіх адрозных па форме асобін (палімарфныя віды). Тэрмін выкарыстоўваецца і ў адносінах да органаў грыбоў, якія адрозніваюцца па форме і іншых параметрах.

ПАЛЯГАННЕ СЕЯНЦАЎ - полегание сеянцев - хвароба маладых сеянцаў (да 2 месяцаў), якая характарызуецца пажаўценнем і далейшым іх паляганнем.

ПАНФІТОТЫЯ - панфитотия - масавае захворванне раслін, якое ахоплівае некалькі краін або кантынентаў.

ПАРАЖАЛЬНАСЦЬ - поражаемость - схільнасць раслін да захворвання.

ПАРАЖЭННЕ - поражение - наяўнасць прымет захворвання на расліне.

ПАРАЗІТНЫЯ ГРЫБЫ, ПАТАГЕННЫЯ ГРЫБЫ - паразитные грибы, патогенные грибы - грыбы, якія жывуць за кошт іншых арганізмаў (гаспадароў), з'яўляюцца ўзбуджальнікамі хвароб раслін.

ПАРАЗІТЫЗМ - паразитизм - форма міжвідавых узаемаадносін, пры якой адзін арганізм (паразіт) існуе за кошт другога або некалькіх іншых гаспадароў і ускладае на іх часткова або цалкам рэгуляцыю сваіх узаемаадносін са знешнім асяроддзем.

ПАРАФІЗЫ - парафизы - бясплодныя вырасты вегетатыўнага міцэлію грыба ў выглядзе простых або разгалінаваных ніцяў, якія размяшчаюцца паміж палавымі клеткамі ці спораўтваральнымі органамі (сумкамі або базідыямі) для аховы іх ад узаемнага ўціску, механічных пашкоджанняў і неспрыяльных фактараў.

ПАРША - парша - інфекцыйная хвароба, якая выклікаецца мікраскапічнымі патагеннымі грыбамі, актынаміцэтамі, неспрыяльнымі умовамі асяроддзя, характарызуецца пашкоджаннем паверхневых тканак клубняў, пладоў, каранёў і лісця, на якіх з'яўляюцца язвы, пустулы, бародаўкі і плямы, нярэдка з аксамісцістым алівкавым налётам.



ПАСТЫ АНТЫСЕПТЫЧНЫЯ ДЛЯ ДРАЎНІНЫ - пасты антисептические для древесины - нагадваюць сабой сметанападобную масу з сумесі сухога парашкападобнага водарастваральнага антысептыку і клейкага рэчыва; выкарыстоўваюцца для дыфузійнага насычэння драўніны антысептыкам.

ПАТАГЕН, ПАТАГЕННЫ АРГАНІЗМ - патоген, патогенный организм - узбуджальнік хваробы расліны, які выклікае пры пранікненні ў тканку паталагічныя з'явы: парушэнне абмену рэчываў, утварэнне некрозу і іншыя з'явы.

ПАТАГЕНЕЗ - патогенез - гісторыя развіцця хваробы.

ПАТАГЕННАСЦЬ - патогенность - здольнасць узбуджальніка хваробы выклікаць паталагічныя працэсы ў расліне.

ПАТАЛОГІЯ - патология (ад грэч. pathos -пакута, хвароба, logos - вучэнне, навука) - навука аб заканамернасцях узнікнення хвароб, аб асаблівасцях працякання і зыходу хваробных працэсаў.

ПЕРАНАСПОРАВЫЯ ГРЫБЫ - пероноспоровые грибы (Peronosporales ) - парадак ааміцэтавых грыбоў, уключае сямейства піціевыя (Pythiaceae ) , несапраўднамучністарасныя ( Peronosporaceae ) і цытаспоравыя ( Cytopaceae ). Многія віды з'яўляюцца ўзбуджальнікамі хвароб раслін, выклікаюць перанаспарозы, некрозы, гнілі, карлікавасць, выродлівасць.

ПЕРАНАСПАРОЗЫ - пероноспорозы - хваробы раслін, якія выклікаюцца грыбамі з роду Peronospora; пашкоджваюць лісце, сувецці, плады, радзей чаранкі і падземныя часткі раслін.

ПЕРЫТЭЦЫЙ - перитеций - пладовае цела сумчатых грыбоў (групы клейстаміцэтаў і пірэнаміцэтаў), шарападобнае, збанападобнае або іншай формы, з адтулінай на вяршыні (вусцейкам); унутры перытэцыя змяшчаюцца спараносныя органы - сумкі са спорамі, з парафізамі або без іх.

ПЕРЫЯД ІНКУБАЦЫЙНЫ - период инкубационный - прамежак часу паміж заражэннем расліны ўзбуджальнікам і знешнім праяўленнем першых сімптомаў хваробы.

ПЕСТЫЦЫДЫ - пестициды - хімічныя рэчывы і прэпараты, якія выкарыстоўваюцца ў лясной і сельскай гаспадарках для барацьбы са шкоднымі арганізмамі і хваробамі раслін. У залежнасці ад прызначэння для барацьбы з рознымі групамі шкодных арганізмаў пестыцыды дзеляць на: інсектыцыды (для барацьбы са шкоднымі насякомымі і аховы раслін ад іх), акарыцыды (з

кляшчамі), фунгіцыды (з хваробатворнымі грыбамі), нематацыды (з раслінаеднымі чарвямі – нематодамі), гербіцыды (з пустазеллем) і інш.

ПІКНІДЫ – пикниды – пладовыя целы некаторых несапраўдных грыбоў, падобныя па форме і будове на перытэцыі сумчатых грыбоў, г. зн. шарападобныя, збанападобныя ці іншай формы, з вусцейкам на вяршыні або без яго, яны змяшчаюць унутры канідыі (пікнаспоры).

ПІРЭНАМІЦЭТЫ – пиреномицеты – група сумчатых грыбоў, у якіх пладовыя целы перытэцыі зрэдку клейстатэцыі; сумкі пладовых целаў размяшчаюцца пучком, вызваленне сумкаспор – актыўнае; большасць сапратрофы, многа і ўзбуджальнікаў хвароб раслін.

ПЛАДОВАЕ ЦЕЛА ГРЫБА – плодовое тело гриба – умяшчальня спараносных органаў (базідый, сумак, канідыяносцаў з канідыямі, радзей спарангіяў і спачываючых спор).

ПЛАЗМАГАМІЯ – плазмогамия – зліццё пратаплазмы дзвюх раздзельнаполых клетак; пачатковая стадыя палавога працэсу.

ПЛЕАМАРФІЗМ – плеоморфизм – здольнасць арганізма мець у антагенэзе не менш дзвюх стадый спораношэння.

ПЛЕКТАМІЦЭТЫ – група сумчатых грыбоў, у якіх пладовыя целы клейстатэцыі або перытэцыі; сумкі пладовых целаў размяшчаюцца бязладна (хаатычна), вызваленне сумкаспор – пасіўнае. Фітапатагенныя віды роду Ceratocystis выклікаюць сасудзістыя хваробы (трахеамікозы).

ЦВІЛЬНЫЯ ГРЫБЫ – плесневые грибы – грыбы, якія утвараюць пушыстыя або павуціністыя аксамітавыя налёты ( цвіль ) белавата-шэрага, зялёнага, шызага, чорнага, ружовага колеру на розных частках расліны.

ПЛЯМІСТАСЦЬ РАСЛІН – пятнистость растений – хваробы, якія характарызуюцца паяўленнем на лісцях, сцяблах, пладах, насенні больш-менш абмежаваных плям рознага колеру (жоўтага, чырвонага, бурага, чорнага, шэрага, белага і інш.), якія ў далейшым складаюцца пераважна з адмерлых клетак. Выклікаюцца інфекцыйнымі і неінфекцыйнымі фактарамі.

ПОЛАСЦЕВАСУМЧАТЫЯ ГРЫБЫ – полостносумчатые грибы – падклас сумчатых грыбоў, сумкі ў іх утвараюцца ў асобных поласцях (локулах) міцэліяльных стром , якія атрымалі назву аскастром.



ПРАГНОЗ ХВАРОБ – прогноз болезней – прадбачанне ці прадказанне тэрмінаў асобных заражэнняў, праяўленняў (успышак) хвароб, агульнай інтэнсіўнасці іх распаўсюджання і развіцця, а таксама велічыні прынесеных хваробамі страт.

ПРАТРАВЫ – протравители – група фунгіцыдаў для хімічнага пратраўлівання насення з мэтай абеззаражання іх ад узбуджальнікаў хвароб і аховы насення ад патагенных арганізмаў, якія знаходзяцца ў глебе.

ПРАФІЛАКТЫКА ХВАРОБ – профилактика болезней – сукупнасць мерапрыемстваў, якія накіраваны на папярэджванне ўзнікнення і распаўсюджання хвароб.

ПУЗЫРЫСТАЯ РЖА СТВАЛОЎ, ГАЛІН І ХВОІ – пузырчатая ржавчина стволов, ветвей и хвои – хвароба ў дрэў хвойных парод, выклікаецца ржаўнымі грыбамі і характарызуецца утварэннем пузырыстага ўздуцця на ствале, галінах або хвоі.

ПУСТУЛЫ – пустулы – групы спараносных органаў грыбоў у выглядзе падушачак ці каросцінак пад покрывам тканак раслінына-гаспадара або на паверхні тканак (у ржаўных, меланконіевых і інш. грыбоў).

## Р

РАК – рак – хвароба раслін, якая выклікаецца пераважна грыбамі і бактэрыямі. Характарызуецца празмерным, няправільным разрастаннем асобных частак раслін, што прыводзіць да утварэння пухлін і наростаў.

РАК БАКТЭРЫЯЛЬНЫ, МОКРЫ, АБО БАКТЭРЫЯЛЬНАЯ ВАДЗЯНКА – рак бактериальный, мокрый, или бактериальная водянка – назву хвароба атрымала па асноўнай прымеце — мокрым лубе і выключна вільготнай драўніне ў месцах пашкоджвання (на яліне і піхце). Выклікаецца грыбам Erwinia multivora.

РАК ДУБА ПАПЯРОЧНЫ – рак дуба поперечный – хвароба ствалоў дрэў дуба, выклікаецца бактэрыяй – Pseudomonas quercina. На ствалах утвараюцца пухліны з глыбокімі папярочнымі трэшчынамі і раны з няроўнымі адагнутымі краямі. На месцы пухлін ствол моцна дэфармуецца, у драўніне іншы раз развіваецца гніль.

РАК МАРАЗАБОЙНЫ – рак морозобойный – пашкоджанне галінак і ствалоў дрэў у выглядзе адкрытай, акружанай нарасцю раны, утвараецца вясной у выніку рэзкага паніжэння тэмпературы ўначы.

РАК ПУХЛІНАПАДОБНЫ – рак опухолевидный – на галінах і ства-

лах дрэў тапол[, вярбы і інш. парод утвараюцца пухліны (нарасці). Выклікаецца бактэрыямі.

РАК-ШАРАНКА, СМАЛЯНЫ РАК - рак-серянка, смоляной рак - хвароба характарызуецца утварэннем на ствалах дрэў ракавых язваў са смолацячэннем. Часта сустракаецца у сасны звычайнай, дзе яе узбуджальнікамі з'яўляюцца ржаўныя грыбы.

РАК ЯЗВАВЫ - рак язвенный - характарызуецца утварэннем на галінках і ствалах дрэў адкрытых, акружаных нарасцямі язваў, з году у год яны павялічваюцца у выніку шматгадовага адмірання нарасцяў.

РЫЗАМОРФЫ - ризоморфы - шнурападобныя відазмяненні міцэлія, пабудаваныя з гіф, якія зрастаюцца бакавымі сценкамі і па форме падобныя на тонкія карані дрэў.

С

САПРАТРОФЫ - сопротрофы ( ад грэч. saргos - гнілы і Trophe - ежа, харчаванне)- бактэрыі, грыбы, актынаміцэты і расліны, якія жывяцца арганічнымі рэчывамі зімуючых раслін і жывёл. Па тыпу жыўлення належаць да гетэратрофных арганізмаў.

САСНОВЫ ВЯРТУН - сосновый вертун - хвароба сеянцаў і маладых дрэў сасны, якая характарызуецца дэфармацыяй губа і парасткаў; выклікаецца ржаўным грыбам Melampsora pinitorqua.

САСУДЗІСТЫ МІКОЗ - сосудистый микоз - хвароба лісцевых парод (ільмы, вяза, дуба, клёна і інш.), пры якой водаправодзячая сістэма дрэў пашкоджваецца грыбамі, што выклікае адміранне (усыханне) расліны.

СЕПТАРЫЁЗ - септориоз - хвароба раслін, якая выклікаецца патагеннымі грыбамі роду Septoria. Характарызуецца утварэннем на лісцях, радзей на сцяблах і пладах белых плям з цёмным абадком. На верхнім баку плям развіваюцца пікніды грыба у выглядзе чорных кропінак.

СІМБІЁЗ - симбиоз (ад грэч. symbiosis - сумеснае жыццё) - форма міжвідавых узаемаадносін, пры якой магчыма цеснае сумеснае жыццё арганізмаў розных відаў (сімбіёнтаў). Уласціва жывёлам, раслінам, мікраарганізмам. Адзначаюць сімбіёз двухбаковакарысны, аднабаковакарысны і двухбакованейтральны.

СІМПТОМЫ ХВАРОБЫ - симптомы болезни - знешнія прыметы хваробы, дунныя реакцыі арганізма на хваробы.

СІНЯВА, СІНЬ ДРАЎНІНЫ - синева древесины - афарбоўка сі-



нявата-шэрага колеру рознай інтэнсіўнасці, якая з'яўляецца у ссечанай драўніне пры развіцці у ёй некаторых відаў дрэвафарбавальных грыбоў.

СКЛАДСКІЯ ГРЫБЫ, ШТАБЕЛЬНЫЯ ГРЫБЫ - складские грибы, штабельные грибы - група грыбоў, якія пасяляюцца на ссечанай драўніне і выклікаюць яе пашкоджанне пры захоўванні на складзе.

СКЛЕРОЦЫЙ - склероций - шчыльнае спляценне міцэлія, акруглай, падоўжана-авальнай формы, іншы раз няправільнай формы. Нагадвае сабой спачываючую стадыю некаторых відаў грыбоў.

СКРЫЎЛЕННЕ ГАЛІНАК І ПАРАСТКАЎ - искривление ветвей и побегов - змяненне формы галінак або парасткаў з прычыны захворвання, пашкоджання насякомымі, снегам, марозам і пад уздзеяннем розных механічных прычын.

СЛІЗЕЦЯЧЭННЕ - слизетечение - хвароба ствалоў і галінак у многіх лісцевых парод, характарызуецца выцяканнем слізістай вадкасці з трэшчын кары, пянькоў, адломаных галінак, маразабойных трэшчын.

СМОЛАЦЯЧЭННЕ - смолотечение - шчодрае выдзяленне смалы у хвойных парод.

СПАРАНГІЙ - спорангий -орган бясполага размнажэння ніжэйшых грыбоў з эндагенным спораўтварэннем.

СПАРАНГІЯСПОРЫ - спорангиоспоры - нерухомыя споры, якія утвараюцца у спарангіях.

СПАРЫННЯ ЗЛАКАЎ - спорынья злаков - хвароба жыта, ячменю і многіх іншых злакаў.

СПЕРМАГОНІЙ - спермогоний - форма спаранашэння ржаўных грыбоў.

СПОРА - спора - агульная назва для рэпрадукцыйных органаў грыбоў і іншых мікраарганізмаў у выглядзе адной або некалькіх клетак, якія прызначаны для іх размнажэння.

СПРАЖКІ ГРЫБОЎ - пряжки грибов - невялікія вырасты клетак, якія знаходзяцца супраць папярочнай перагародкі і злучаюць дзве суседнія клеткі грыбніцы бакавымі пратокамі. Развіваюцца у базідыяльных грыбоў.

СУМКА, АСК - сумка, аск - асноўны орган спаранашэння сумчатых грыбоў, нагадваюць мешкападобнае або іншай формы утварэнне, унутры якога эндагенна фарміруюцца сумкаспоры, або аскаспоры у пэўнай колькасці (звычайна у колькасці 8).

СУМЧАТЫЯ ГРЫБЫ - сумчатые грибы - тое, што і аскаміцэты.

СФЕРАПСІДАЛЬНЫЯ ГРЫБЫ - сферопсидные грибы ( Sphaeropsidales ) - парадак недасканалых грыбоў, у якіх канідыяносцы і каніды і утвараюцца ў спецыяльных умяшчальнях - пікнідах.

Т

ТАФРЫНАВЫЯ ГРЫБЫ - тафриновые грибы (Taphrinales) - парадак сумчатых грыбоў, сумкі якіх размяшчаюцца на паверхні пашкоджанага органа і утвараюць далікатны белы ці залацісты налёт. Усе віды -паразіты. Пашкоджваюць парасткі, лісце, плады.

ТАКСІНЫ - токсины - атрутныя рэчывы рознага паходжання, якія утвараюцца ў выніку жыццядзейнасці узбуджальніка.

ТАЛЕРАНТНАСЦЬ - толерантность - здольнасць расліны праяўляць вынослівасць да хваробы ці атруты.

ТРАХЕАМІКОЗЫ - трахеомикозы - тое, што і сасудзістыя мікозы.

ТЫП ХВАРОБЫ - тип болезни- Знешняе тыпічнае праяўленне хваробы, складаецца з сукупнасці анатамічных і фізіялагічных змяненняў, якія адбываюцца ў расліне пры яе захворванні.

ТЭЛЕЙТАПУСТУЛЫ - телейтопустулы - форма спаранашэння ржаўных грыбоў, утвараецца ў канцы вегетацыйнага перыяду ў выглядзе бурых. або чорных падушачак са спорамі (тэлейтаспорамі) на пашкоджаных органах раслін.

ТЭЛЕАБАЗІДЫЯЛЬНЫЯ ГРЫБЫ - телеобазидиальные грибы - падклас базідыяльных грыбоў, уключае парадкі галаўнёвых і ржаўных грыбоў.

У

УЗБУДЖАЛЬНІК - возбудитель - мікраарганізм (грыб, актынаміцэт, бактэрыя, вірус, нематода), які выклікае хваробу.

УЗДУЦЦЕ ГАЛІНАК І СТВАЛОЎ - вздутие ветвей и стволов - хвароба драўняных і кустовых раслін, якая характарызуецца мясцовым патаўшчэннем галінак і ствалоў. Выклікаецца ржаўнымі грыбамі.

УРЭДАПУСТУЛЫ - уредопустулы - форма спаранашэння ржаўных грыбоў, утвараецца летам у выглядзе светла-жоўтых ці бурава-та-аранжавых падушачак, якія выходзяць на паверхню пашкоджанага органа расліны праз разрыў эпідэрмісу.



УСТОЙЛІВАСЦЬ РАСЛІН - устойчивость растений - здольнасць раслін процістаяць інфекцыйным і неінфекцыйным хваробам.

Ф

ФАКУЛЬТАТЫЎНЫЯ ПАРАЗІТЫ - факультативные паразиты - мікраарганізмы, якія звычайна развіваюцца як сапратрофы, але ў спрыяльных для развіцця ўмовах пашкоджваюць і жывыя тканкі.

ФАСЦЫЯЦЫЯ - фасциация - выродлівае зрастанне галінак у шырокае пляскатае утварэнне. Сустракаецца на драўняных і кустовых пародах.

ФАЦЫДЫЯВЫЯ ГРЫБЫ - фацидиевые грибы (Phacidiales ) - парадак сумчатых грыбоў з пладовымі целамі - апатэцыямі.

ФАЎТНАСЦЬ ДРЭВАСТОЯЎ - фаутность древостоев - наяўнасць у дрэвастоях дрэў з тымі ці іншымі заганамі (фаўтамі) і хваробамі.

ФІТАПАТАЛОГІЯ - фитопатология - навука аб хваробах раслін і спосабах барацьбы з імі.

ФІТАПАТАЛОГІЯ ЛЯСНАЯ - фитопатология лесная - навука аб хваробах лясных драўняных і кустовых раслін , аб пашкоджаннях драўніны і прадуктаў яе перапрацоўкі.

ФІТАФТАРОЗЫ - фитофторозы - хваробы раслін, якія выклікаюцца грыбамі з роду Phytophthora. Праяўляюцца ў выглядзе некрозаў, плям, гніляў, язваў на пашкоджаных наземных і падземных частках раслін.

ФРАГМАБАЗІДЫЯ - фрагмобазидия - мнагаклетачная базідыя, падзеленая папярочнымі перагародкамі на 4 клеткі, па баках якіх фарміруюцца базідыяспоры.

ФУЗАРЫЁЗЫ - фузариозы - хваробы раслін, якія выклікаюцца грыбамі з роду Fusarium. Пашкоджваюць наземныя і падземныя органы раслін. Праяўляюцца часцей трахеамікозным,або фузарыёзным завяданнем, гніллямі каранёў і надземных частак, радзей некрозамі і плямістасцямі..

ФУНГІЦЫДЫ - фунгициды (ад лац. fungus- грыб і caedo - забіваю) - неарганічныя і арганічныя хімічныя рэчывы для знішчэння ці папярэджання развіцця патагенных грыбоў і бактэрый - узбуджальнікаў хвароб лясных і сельскагаспадарчых раслін.

Х

ХІМАТЭРАПІЯ - хемотерапия - лячэнне раслін увядзеннем унутр іх сістэмных фунгіцыдаў. Прэпараты уводзяць намочваннем насення

і чаранкоў, апырскваннем лісця, палівукай глебы, ін'екцыяй у ствол.

ХІТРЫДЫЯМІЦЭТЫ - хитридиомицеты (Chytridiomycetes) - клас ніжэйшых грыбоў, вегетатыўнае цела іх у выглядзе плазмодыю або зачаткавага міцэлію.

ХЛАМІДАСПОРЫ - хламидоспоры - вегетатыўныя споры з патоўшчанай абалонкай, здольныя доўга (да 10 гадоў) захоўвацца пры неспрыяльных умовах.

ХЛАРОЗ - хлороз - хвароба раслін, якая характарызуецца частковым або поўным пажаўценнем лісця і іншых зялёных частак або усёй расліны, што з'яўляецца вынікам недахопу або адсутнасцю хларафілу.

ХОЛАБАЗІДЫЯ - холобазидия - аднаклетачная без папярочных або падоўжаных перагародак базідыя, характэрная для падкласа холабазідыяміцэтаў.

ХОЛАБАЗІДЫЯМІЦЭТЫ, АБО ГОЛАБАЗІДЫЯМІЦЭТЫ - холобазидиомицеты, или голобазидиомицеты - падклас базідыяльных грыбоў. Уключае 2 групы парадкаў (гіменаміцэты і гастэраміцэты).

Ц

ЦЫСТА - циста - адпачываючая спора з тоўстай мнагаслойнай абалонкай у ааміцэтаў.

ЦЫСТЫДЫ - цистиды - стэрыльныя гіфы у гіменіяльным слаі пладовых цел базідыяміцэтаў.

Ч

ЧАГА, БЯРОЗАВЫ ГРЫБ - чага - стэрыльная форма губавага базідыяльнага грыба Inonotus obliquus. Расце на ствалах бяроз, радзей на алешынах, рабінах.

ЧЭРНЬ - чернь - на паверхні лісця, а часам і хвоі утвараецца чорны налёт міцэлію і спаранашэння грыбоў.

Ш

ШУТЭ - шютте (ням. Schutte, ад schutten- асыпацца) - тып грыбных хвароб, якія характарызуюцца змяненнем колеру, дачасным адміраннем і асыпаннем хвоі. Найбольш шкодаснымі з'яўляюцца шутэ звычайнае і шутэ снежнае на сасне, на яліне - шутэ елкі.

Э

ЭКЗАБАЗІДЫЯЛЬНЫЯ ГРЫБЫ - экзобазидиальные грибы (Exobasidiales)- парадак базідыяльных грыбоў, у якіх базідыі утвараюцца непасрэдна на міцэлії.

ЭНТАМАФТАРАЛЬНЫЯ ГРЫБЫ - энтомофторовые грибы (Entomophthorales) - парадак зігаміцэтаў. Большасць паразіты насякомых, некаторыя сапратрофы.

ЭПІФІТОТЫЯ - эпифитотия - масавае захворванне раслін.

ЭПІФІТЫ - эпифиты - расліны, якія жывуць на іншых раслінах (пераважна на галінках і ствалах дрэвавых парод). У адрозненне ад паразітычных арганізмаў выкарыстоўваюць раслінгаспадароў толькі як месца прымацавання і існавання, а жыўленне атрымліваюць з навакольнага асяроддзя. Эпіфіты ёсць сярод водарасцяў, лішайнікаў і мохападобных.

ЭЦЫДЫІ - эцидии - форма (стадыя) спаранашэння ржаўных грыбоў, утвараецца вясной і у пачатку лета у выглядзе шарападобнага ці бакалападобнага ёмішча або пузырыстага уздуцця, якія запоўнены залаціста-жоўтымі або аранжавымі эцыдыяспорамі.

ТЭРМІНАЛАГІЧНЫ ТЛУМАЧАЛЬНЫ БЕЛАРУСКА-РУСКІ
СЛОЎНІК ПА ЛЯСНОЙ ФІТАПАТАЛОГІІ
Складальнікі: Раптуновіч Яфім Сямёнавіч,
Мінсюк Рэгіна Вячаславаўна
Рэдактар М.П.Мурашка. Карэктар Р.М.Рабая.
Падпісана да друку 06.10.95.Фармат60x84 1/16.
Друк афсетны.Ум.друк.арк.1,9.Ум.фарба-адбіт.1,9.Ул.-выд.арк.1,6.
Тыраж 150 экз. Заказ 245.
Беларускі дзяржаўны тэхналагічны універсітэт.
220630. Мінск, Свярдлова,13а.
Аддрукавана на ратапрынце Беларускага дзяржаўнага
тэхналагічнага універсітэта.
220630. Мінск, Свярдлова,13.